© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024





Агульны від вентыляцыйнай шахты.

Фота: Валашчук

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 51 (408) | ГОД VIII | 22 СНЕЖНЯ 1963 г. | ЦАНА 60 ГР

ПА КРАІНЕ

## МЕДЗЬ СТАРАЯ І НОВАЯ

Любін пачынаецца ў Баляслаўцу, хоць адлегласць паміж абедзвюма мясцінамі на гадзіну хуткай язды «Волгай».

Шахцёры ад прыроды людзі гасцінныя. Таму і дырэктар Ключынскі, інжынеры Шчэрба і Панкрац расказалі аб усім, паказалі капальню, увялі ў курс справы.

— Калі пятнаццаць год назад пачыналі працу на месцы старога Баляславіцкага басейна медзі, гэта была адна з найбольшых у Польшчы будоўляў, «Конрад» даў першую медзь 10 год назад і цяпер з'яўляецца найбольшай з польскіх капальняў медзі. Капальня каштавала звыш мільярда злотых, а цяпер дае 2/3 усёй медзі краіны.

— Руда тут бедная. Каб атрымаць кілаграм медзі, трэба здабыць і перарабіць шмат руды. Вельмі дрэнныя геалагічныя ўмовы і, праўду кажучы, замежныя спецыялісты не верылі ў поспехі. Пад руданосным пластом ляжыць порысты вапняк, запоўнены вадой. І калі б нарушыць ахоўны пласт лупняку, скончылася б вельмі дрэнна. Але знайшлі спосаб бяспечнай працы: буравяць шчыліны, робяць дзіркі ў гэтай «ванне» і патрошку спускаюць ваду. Выпампавалі ўжо 40 млн. м³ вады. Сапраўднае возера. Ніхто ў Еўропе не рабіў яшчэ такога.

— У падобных умовах такія метады даюць добрыя вынікі. У Любінскім басейне, у новай медзі, таксама ёсць шмат вады. Такім чынам, «Конрад» для «Любіна» з'яўляецца і школай і палігонам. Падрыхтоўваюцца тут спосабы пагрузкі вырабаткі, прататыпы машын, арганізоўваецца ў Баляслаўцу кансультацыйны пункт для завочнай інжынерскай школы, месцы для практыкантаў з Любіна.

З усяго гэтага вынікае, што старая медзь падае руку сяброўскай дапамогі новай медзі.

Гаспадары не скрывалі сваіх клопатаў, напр., аб дасягненні ў Любіне высокай прадукцыйнасці працы. Амаль усе машыны, патрэбныя для механізацыі працы, яны вымушаны выконваць тут, у «Конрадзе» самі. Іх калегам - шахцёрам - вугальшчыкам — бліжэй, вядома, свае ўласныя патрэбы, а цяжкая прамысловасць такіх машын пакуль яшчэ не прадукуе.

* * *

Тут, у «Конрадзе» ёсць таксама і ключык да зразумення рангу спраў, звязаных з вялікай меддзю. «Конрад» (2/3 краёвай здабычы) пакрывае толькі некалькі працэнтаў патрэбы краіны. А патрэбы гэтыя сапраўды даведзены да мінімума.

Медзь — асаблівы метал. Здзіўляючыя яго фізічныя якасці і прыдатнасць у гаспадарцы. Калі краіна не мае медзі, яна не можа развіваць навейшай электратэхнікі, а значыць, і машыннай прамысловасці. Калі мае яе вельмі мала, вымушана купляць яе за любую цану, у кожнага жадаючага прадаць. Нават тады, калі цэнны груз трэба перагружаць у адкрытым моры, нават тады, калі вымушаны купляць яе ў выглядзе патэльняў і каструль. Тона медзі каштуе 600 — 700 долараў. І здараюцца доўгія перыяды, калі яе не ўсюды можна купіць.

(Працяг на стар. 5)

## ЗЯМЛЯ

Люблю твой нораў спішаны і грозны,
Таксама промню кожнаму жадзён.
Ты павядзеш плячом — шчабечуць вёсны,
Другім — завеі капыцяць загон.
Ты свой сустрэла поўдзень высакосны
І мне паслала шчодры вырай дзён.
Хай будзе на лугах тваіх відзён,
Дыміць — не аддыміцца след мой росны.
Я слухаю з табой пчаліны звон,
Дзевятым валам ты ўзняла барозны
І сына-сейбіта ўзяла ў палон,
Абрусам руні маладой здавён
Заслана ты, як круглы стол шырозны, —
Для ўсіх павінен быць не цесны ён.

РЫГОР БАРАДУЛІН

## 10 ГОД НА СЦЭНЕ

10 год таму пачалася праца, якая цяпер прыносіць такі добры плён. Беластоцкі калектыў песні і танца «Курпе Зелёнэ» меў быць калектывам выключна рэгіянальным, меў базавацца на багатым курпёўскім фальклоры. Яго заснавальнік **праф. Саберайскі,** ад вёскі да вёскі ходзячы, збіраў і запісваў песні, якія часта паміраюць разам са старымі людзьмі. Гэтыя песні спявае зараз калектыў.

З часам калектыў змяніў свой мастацкі профіль. У яго праграму ўвайшлі сучасныя песні, песні іншых раёнаў краіны, а нават беларускія, у тым ліку і наша хвацкая «Лявоніха».

Трэба сказаць, што пашырэнне рэпертуару выйшла «Курпям» на дабро. Цяпер калектывам кіруе вядомы беластоцкі дырыжор, дырэктар нашага сімфанічнага аркестра **Ян Куляшэвіч.**

Калектыў пабываў у БССР, дзе яго горача прымалі.

«Курпе Зелёнэ» — аматарскі калектыў, які ўпартай працай дасягнуў высокага мастацкага ўзроўню. Зараз ён з'яўляецца найлепшым калектывам ваяводства. Ведаюць яго добра людзі ў вёсках, дзе бывае, нягледзячы на надвор'е. Неаднойчы артысты вяртаюцца дамоў па паўночы змучаныя, а раніцай, як і ўсе іншыя, ідуць на сваю працу на фабрыках, ва ўстановах.

Нашае жаданне «Курпям»: каб і ў наступным дзесяцігоддзі ніхто не мог зацьміць вашай славы. (вл)

фота **В. Рудчык**



Чытачам
і сімпатыкам „НІВЫ"
шлем сардэчныя
Святочныя пажаданні

Рэдакцыя

© PDF: Kamunikat.org 2024 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

ВЫКАЗВАННІ ПРАФЕСАРА У НЯГОЎСКАГА

# У МІНСКУ НЕ БЫЛО «ЦУДУ»

Пасля знаёмства з матэрыяламі, якія датычылі аперацыі, праведзенай у Мінску (адратаванне жыцця чалавека праз 38 мінут пасля яго смерці), вядомы спецыяліст у гэтай галіне, дырэктар Інстытута Эксперыментальнай фізіялогіі Акадэміі Медыцынскіх Навук СССР прафесар Уладзімір Нягоўскі ацаніў гэтае здарэнне. Вось яго выказванні для рэдакцыі Рабочых Агенцтваў:

— Вестка з Мінска выклікала скептыцызм у кругах лекараў, бо сусветная медыцына не прызнае магчымасці адратаваць жыццё чалавеку праз 38 мінут пасля яго клінічнай смерці ва ўмовах нармальнай тэмпературы. У мозгу памершага за такі час адбываюцца змены, з-за якіх мозг ужо не зможа працаваць. Спецыялісты не паверылі ў «цуд» і былі пераконаны, што пры аперацыі ў Мінску былі створаны дадатковыя ўмовы.

Апераванне чалавека больш як паўгадзіны пасля яго клінічнай смерці было б бессэнсоўна, каб не былі прыняты меры з мэтай раздування гаснучай іскрынкі жыцця і ўтрымліванне яе аж да моманту падрыхтавання адпаведнай апаратуры. Такімі мерамі найчасцей бывае масаж грудной клеткі ў наваколлі сэрца з мэтай утрымання кровазвароту ў арганізме і штучнае дыханне. Журналіст з Мінска, які паінфармаваў цэнтральны друк аб аперацыі, праведзенай прафесарам Лібавым, не прыдаў належнага значэння гэтаму боку справы. Штучныя лёгкія і сэрца былі падключаны да арганізма 21-гадовага Віктара сапраўды на 38 мінуце пасля таго, як лекары пацвердзілі яго клінічную смерць. Аднак на працягу гэтых 38 мінут асістэнты хірурга працягвалі масаж грудзей пацыента, падтрымліваючы яшчэ тлеючую іскрынку жыцця.

Такім чынам, у Мінску не здарылася нічога незразумелага для медыцыны. Але была незвычайная, на рэдкасць цяжкая аперацыя, першай фазай якой было ўтрыманне пры дапамозе масажу слабога следу жыцця ў арганізме пацыента на працягу 38 мінут, а другой — раскрыццё грудной клеткі і падключэнне штучных лёгкіх і сэрца.

Гэта аперацыя сведчыць аб высокім майстэрстве доктара Лібава і яго выдатным веданні метадаў ратавання памерлых. Замест «цуду» мы спаткаліся тут з выпадкам прадмнамернага кроку, асноўваючагася на навейшых дасягненнях медыцыны.

Запісаў

**Рышард Бадоўскі**




# ГОРАДАМ

**На ўзгорку за вёскай Залешаны (Беластоцкі павет) стаіць школа. У ёй вырастаюць парасткі новага ў сучасным вобліку вёскі, што дазваляе разарваць зачараваны круг адсталасці.**

Асенні сонечны дзень. Прыбыўшага ў Залешаны вітаюць стукам трапачак. Запыленыя, паабвешваныя валакном жанчыны з нейкім здзіўленнем выглядаюць з панадворкаў, праводзяць аўтамашыну, вітаючую іх пырскамі гразі, ды зноў вяртаюцца да сваіх церніц і трапачак. Апрацоўка ільну. Тэхніку пераняла ад прабабулек.

Ці можна яшчэ штонебудзь дадаць да гэтага вобразу, здавалася б, дошкамі ад свету забітай вёскі? Можна, ды яшчэ і шмат.

Пачалося зімою. Ліга жанчын за фінансы Міхалоўскага ГС наладзіла ў Залешанах курс прыкладнага харчавання. Пачаўся ён у студзені т.г. Памятаеце, які быў тады мароз? У Залешаны можна было дабрацца толькі санямі. Не ведаю, ці ахвотна ў гэтую дарогу выбіралася Крысціна Панэк — інструктар па справах хатняй гаспадаркі Ваяводскага праўлення Лігі Жанчын. Сядзела там аднак 5 дзён. Вучыла жанчын смачна і эканомна гатаваць. Штодзень дзяўчаты і жанчыны, замест кудзелі, бралі кошык, напоўнены бульбай, мясам, усялякай агароднінай, і ішлі на вечарынкі, каб... вучыцца гатаваць. Збіралася іх 35 асоб.

Быў у Залешанах гурток Саюза сялянскай моладзі. Нічым асаблівым не даў знаць свету аб сваім існаванні, а калі пакінуў вёску адзін з актыўнейшых членаў гуртка, яго старшыня, гурток цалкам заняпаў.

Толькі прасторная, як на вясковыя ўмовы, двухпавярховая школа, што стаіць за вёскай на ўзгорку, гарэла нейкім ярчэйшым бляскам. Пяты ўжо год адбываюцца тут заняткі на курсах для дарослых. Залешанцы папаўняюць сваю пачатковую адукацыю. Апошні курс налічвае 12 курсантаў ва ўзросце ад 25 да 30 год.

Глухія зімовыя вечары ў Залешанах. Толькі завіруха гоніць снег па дарогах. Маладыя і старэйшыя прыходзілі на курс, збіраліся ў школе. Перад заняткамі і пасля іх слухалі радыё, заводзілі аб тым — аб сім гутарку.

Гэта быў, хоць сціплы, але пачатак новага. З яго нарадзілася ідэя: чаму не праводзіць неяк арганізавана такіх сустрэч? Настаўнік Яўгень Ляшчук меў ужо арганізацыйны вопыт з папярэдняга месца сваёй працы. Так дайшло да наладжання ў Залешанах так званага праблемнага курса. Ахвотных знайшлося каля 30 чалавек. Ёсць ужо апрацаваная праграма гэтага курса. Весткі аб свеце, аб касманаўтыцы, гутаркі аб навейшых метадах апрацоўкі зямлі, навука танцаў, асабістая гігіена, культура палавых зносін, распрацоўка п'есы, абмяркоўка кінафільмаў — гэта толькі некаторыя тэмы багатай праграмы курса.

Вельмі добра зрабіў Прэзідыум ПРН у Беластоку, што ў сувязі з Днём настаўніка ўзнагародзіў залешанскую школу тэлевізарам. Праграма праблемнага курса прадбачвае шырокае яго выкарыстанне.

Вось «дошкамі забітая ад свету вёска», а ў ёй жанчыны хочуць не проста варыць, але варыць смачна і ашчадна. Гаршчок капусты ці іншага баршчу ды велізарная міска закрашанай бульбы не заспакойвае ўжо іх запатрабаванняў. Яны хочуць эстэтычна, як у... горадзе, падаць талерку, лыжкі, відэльцы і нажы, яны хочуць ведаць, як імі карыстацца.

«Забітая дошкамі ад свету вёска» і тэлевізар, і курсы, і прага ведаў. У гэтай вёсцы моладзь распрацоўвае чатырохактавую п'есу.

Старое, застаўшаеся з мінулых часоў, лоб у лоб сутыкаецца з новым, усё больш уступае яму месца. Дошкі, загароджваючыя вёску ад свету — трашчаць, не вытрымліваюць націску. Вёска, не аглядаючыся на старэнькія цягнікі, якіх тут многія ў сваім жыцці зусім не бачылі, з ракетнай хуткасцю даганяе горад. Можа не Варшаву, не Беласток, але Сямяцічы, Дуброву, Саколку...

**Віктар Рудчык**

Фота аўтара



**Некаторыя сярод іх не бачылі яшчэ звычайнай чыгункі, але вось Збышак Грыка, вучань II-га класа пачатковай залешанскай школы марыць ужо аб тым, каб стаць настаўнікам і вучыць дзяцей, як яго настаўнік Яўген Ляшчук, якому з нагоды настаўніцкага свята Збышак прыпадносіць кветкі ад імя сваіх сяброваг і сяброў. Мары Збышка напэўна здзейсняцца.**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# ЗА МІЛЬЁНЫ — МІЛЬЯРДЫ

Кожнае ваяводства, павет, грамада, а нават і вёска маюць уласныя справы, спецыялістычныя сітуацыі, розныя праблемы. Аднак ёсць і супольныя справы, характэрныя, дамінуючыя. Якраз гэтыя апошнія зрабіліся прадметам вывучэння ў сельскагаспадарчых школах ва ўсіх раёнах нашага ваяводства.

Найважнейшая праблема на Беласточчыне — меліярацыя і загаспадараванне зялёных угоддзяў. Ёсць у нас ужо каля 120.000 га лугоў і паш з ўрэгуляваным водным рэжымам. Гэта ўжо значная плошча. Гэта самыя важныя капіталаўкладанні беластоцкай сельскай гаспадаркі.

20—30 год назад існаваў зусім іншы погляд на меліярацыю. Калі былі вялікія комплексы балот, дык іх трэба было асушыць. Правільная думка. Аднак гэта толькі частка праблемы і нават не самая важная. Асушэнне балот дало эфект толькі на некалькі год, а потым выявілася, што раслінасць гіне ад недахопу вільгаці ў глебе. І зноў былі нізкія ўраджаі.

Лёгка зразумець, што справа была не толькі ў асушэнні, але і перыядычным абвадненні. Адным словам, патрэбна была не толькі сістэма каналаў, спускаючых ваду, але і такіх, якія абваднялі б у перыяд засухі.

Такім чынам вядзецца цяпер меліярацыя зялёных угоддзяў. Яна павінна адыграць вялікую ролю ў інтэнсіфікацыі беластоцкай сельскай гаспадаркі.

Значэнне меліярацыі рознабаковае: дзякуючы ёй рэгулюецца паветрана-водны рэжым, паляпшаецца структура глебы, ствараюцца добрыя ўмовы для развіцця патрэбных раслін, аблягчаюцца спосабы апрацоўкі глебы (асабліва прымяненне машын), павялічваецца перыяд вегетацыі ў сувязі з ранейшым пачаткам палявых работ вясною.

Трэба ўстанавіць такі ўзровень грунтовых вод, які патрэбны пры існуючых умовах выкарыстання. На лугах узровень грунтовых вод павінен быць на глыбіні 50—60 см, на пашах — 60—80 см, пад збожжа і прамысловыя расліны — 100—110 см, а ў садах 130—150 см.

Варта, каб у час сельскагаспадарчага навучання справы меліярацыі і загаспадаравання былі абмеркаваны падрабязна. Бо ж на тэрыторыі нашага ваяводства ёсць каля паўмільёна гектараў лугоў і паш. Гэта найбольшыя рэзервы нашай сельскай гаспадаркі, выкарыстоўванне якіх дазволіць падвоіць пагалоўе жывёлы.

У бліжэйшыя гады ўзрасце ў нас значэнне жывёльнай прадукцыі. Ужо цяпер наша ваяводства займае адно з першых месц у краіне па малочнай прамысловасці і мае вялікія шанцы выйсці на першае месца. Таму неабходна максімальна выкарыстаць дабрадзействы меліярацыі. Бо гэта ж выданыя мільёны, якія прынясуць мільярды.

Інж. **М. Сухажэбрскі**

# КАШТОЎНАЕ ВЫДАННЕ

Кожны год прыносіць нам штораз больш фактаў, якія сведчаць аб вялікай увазе польскай навукі да справы вывучэння польска - беларускіх традыцый. Сёння хочам падкрэсліць каштоўнае мерапрыемства Беластоцкага навуковага таварыства. Нядаўна падало яно да ведама, што ў 1964 годзе з'явіцца ў друку першы том гадавіка «Acta Baltico Slavica», у якім будзе багата прадстаўлены матэрыял, адлюстроўваючы польска - беларускія кантакты, а таксама польска - літоўскія ўзаемаадносіны. У рэдакцыйнай апрацоўцы знаходзіцца ўжо ІІ-гі том гадавіка.

Беластоцкае навуковае таварыства згуртоўвае польскіх вучоных, якія ў сваіх даследах кранаюць непасрэдна пытанні, звязаныя з мінулым і сучаснасцю паўночна - усходніх земляў Польшчы. Генеральным сакратаром таварыства з'яўляецца праф. др Ежы Антаневіч. Гэтая ўстанова праяўляе таксама жывую цікавасць да набытку «Нівы». Адзначым тут, што ў гэтым годзе яе журналісту Мацею Канапацкаму было прысвоена званне Члена-супрацоўніка БНТ у знак прызнання за яго ўклад у справу даследвання і папулярызацыі польска - беларускіх культурных узаемаадносін.

